# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 4 (488) — Нядзеля, 24 студзеня 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# „Беларусь" на цаліне і цаліна на Беларусі

У свой час Франьцішак Багушэвіч налічваў 9 мільёнаў Беларусаў. Яшчэ перад ім ураджэнец Беларусі польскі пісьменьнік Адам Міцкевіч гаварыў аб 10 мільёнах беларускага насельніцтва. Гэта было каля сотні год таму. Ня гледзячы на ўсе ліхалецьці, спрычыненыя Беларусі расейскім царскім гаспадараваньнем, ад часоў Міцкевіча й Багушэвіча да першай сусьветнай вайны беларускі народ колькасна ўсё-ж павялічваўся. Апошняя царская статыстыкі паказалі лічбу каля 13 мільёнаў.

Але вось прыйшоў бальшавіцкі пэрыяд з усімі ягонымі славутымі «вызваленьнямі», з «найбольш справядлівай у сьвеце» нацыянальнай палітыкай, з усімі «клопатамі» рэжыму аб чалавеку й народах... Афіцыйна й навет урачыста прызнанае існаваньне нацыяў, няпрызнаваных папярэднім рэжымам, а таксама іхнае права на незалежнае дзяржаўнае быставаньне й разьвіцьцё... Ды ў дачыненьні да беларускага народу гэты пэрыяд выявіўся найстрашнейшай пятлёй на шыі ўва ўсіх дачыненьнях, а ў першую чаргу ў дэмаграфічным дачыненьні. Пасьля 40 год ягонага валадарства, на тэрыторыі сяньняшняй БССР апошнія бальшавіцкія перапісы выявілі, як ведама, усяго толькі 8 мільёнаў 60 тысяч чалавек. Гэта — пры ўмовах надзвычай высокага працэнту нараджальнасьці й чыстага натуральнага прыросту нашага народу.

Крамлёўскія валадары й іхныя пакорныя менскія слугі прычыны гэтай трагэдыі нашага народу абыходзяць магільным маўчаньнем. І яшчэ хіба доўга давялося-б чакаць, калі-б нехта спадзяваўся атрымаць ад іх якое-небудзь, больш-менш яснае й адкрытае, тлумачэньне гэтай трагэдыі.

Нам добра ведамыя прычыны зьмяншэньня колькасьці нашага народу ў першых дзесяцігодзьдзях бальшавіцкай улады, затое бальшавіцкая зялезная заслона не дазваляе атрымаць такога-ж дакладнага ўяўленьня аб тым, што ў гэтай галіне адбывалася пасьля другой сусьветнай вайны й адбываецца цяпер. Меркаваць аб гэтым мы можам толькі з прыпадковых вестак і ўскосных выказваньняў на бачынах савецкай прэсы. Такія весткі й выказваньні часам паяўляюцца.

Незапярэчным зьўляецца той факт, што палітыка паступовага зьнішчаньня беларускага народу, як нацыі, у СССР пасьлядоўна праводзіцца й далей, ня гледзячы на часовыя праблескі «лібэралізацыі» бальшавіцкага рэжыму ў пасобных дзялянках падсавецкага жыцьця. Праўда, спынілася фізычнае вынішчэньне, але засталіся і сіле і дзеюць іншыя спосабы. Засталася і ўсьцяж узмацняецца бальшавіцкая дэнацыяналізатарская палітыка шляхам русыфікацыі, засталася палітыка штучнага абмяжоўваньня й зьменшваньня народнага патэнцыялу Беларусі шляхам выпалоскваньня з нашага народу маладога нацыянальнага элемэнту й расьцярушваньня яго па далёкіх заўральскіх прасторах, засталося, урэшце, насаджваньне ў Беларусі расейскага элемэнту, галоўным чынам, на адказныя партыйныя і ўрадавыя, адміністрацыйныя й гаспадарскія становішчы. Для ілюстрацыі гэтай палітыкі падамо й супастаўім некалькі фактаў, нядаўна пацьверджаных у савецкіх афіцыйных выступленьнях і ў зацемках савецкай прэсы.

Высылка беларускай моладзі на казахстанскую цаліну — факт даўно й агульна ведамы. Адносна гэтага цікавыя дадзеныя мы знаходзім у 12-ым нумары менскага часапісу «Полымя» за мінулы год. У нарысе Ул. Стэльмаха пад назовам «Сустрэчы на цаліне» ёсьць характэрны падзагаловак «Беларусь» на цаліне»... У нарысе расказваецца, што на «бяскрайніх прасторах казахстанскіх стэпаў» часта сустракаюцца суцэльныя пасёлішчы Беларусаў — пераважна маладых перасяленцаў. Аўтар нарысу не падае ніякіх лічбаў, але выглядае, што лічба гэтая не малая.

Стэльмах расьпісваецца аб надзвычайным «працоўным энтузіязьме» «пакарыцеляў» цаліны, але прамоўчвае тыя жудасныя ўмовы быту й працы, у якіх яны апынуліся. Ён не заўважыў цяжкіх кліматычных і няўстойлівых глебавых умоваў казахстанскіх прастораў і ўсіх іншых цяжкасьцяў і няўдачаў, зьвязаных зь іхным асваеньнем. Аўтар відавочна пасьпяшаўся з публікацыяй свайго нарысу. Калі-б ён пачакаў да апошняга пленуму ЦК КПСС, ён напэўна не расьпісваўся-б аб «цудоўным цалінным ураджаі». Ведама, як на гэтым пленуме Хрушчоў прызнаў, што каля паўтара мільёна гэктараў гэтага ўраджаю засталося зімаваць на полі. Колькі матар'яльных сіродкаў і цяжкой працы перасяленцаў, у тым ліку і зь Беларусі, было ў выніку гэтага змарнавана, змарнавана з прычыны партыйнай безгаспадарнасьці й няспрыяльных кліматычных умоваў?

Тымчасам, на гэтым самым партыйным пленуме ў Маскве, першы сакратар ЦК КП Беларусі Мазураў гаварыў аб «запраўднай новай цаліне» на Беларусі. Ён гаварыў, што на Беларусі «патрабуюць правядзеньня мэльярацыйных работ больш чым мільён гэктараў ворнай зямлі». Лічба гэтая значна прыўменшаная. У ваднэй Палескай нізіне асушэньня патрабуе не адзін, а пара мільёнаў гэктараў, як гэта было даведзена ў папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» ў артыкуле В. Б. «Нявыкарыстаныя багацьці». Сюды даходзіць яшчэ добры мільён гэктараў раней апрацоўванай плошчы, якая, паводле выказваньняў гэтага-ж Мазурава ў 1957 годзе, выйшла з сельскагаспадарскага карыстаньня й затрабуе хмызьнякамі.

Мазураў падаваў таксама прыклады «высокай эфэктыўнасьці мэльярацыі», якая дазваляе на працягу 2-3-ох год адкупляць усе затраты на яе. Ён дакараў дзяржпляну СССР, што той адпускае мала сіродкаў на мэханізацыю мэльярацыйных працаў, але чамусьці не закрануў таго, што машыны самі не працуюць; да іх патрэбныя таксама людзі.

Нястача людзкой працоўнай сілы на вёсцы, выкліканая ўцёкамі насельніцтва ў гарады й перасяленьнямі на заўральскія цалінныя землі зьяўляецца, хіба, не апошняй, а аднэй з галоўных прычынаў зьўленьня цаліны на Беларусі.

І вось, беларускія машынабудаўнічыя заводы ў вялікай ступені працуюць для казахстанскай цаліны, дзе гэтая тэхніка, як прызнаў сам Хрушчоў, належна ня выкарыстоўваецца (напрыклад, трактар «Беларусь», паводле нарысу, сустракаецца там на кажным кроку); праводзіцца масавае перасяленьне туды беларускай моладзі, дзе ейная цяжкая праца разам з ураджаем часта марна гіне пад сьнегам. У гэты самы час, прыгодныя для сельскагаспадарскай апрацоўкі беларускія прасторы ляжаць забалочанымі й зарастаюць хмызьнякамі — ствараецца «новая цаліна». Тут варта прыгадаць, што навет Хрушчоў, наведаўшы Менск у пачатку мінулага году, заявіў, што ў кліматычных умовах Беларусі ўраджай заўсёды вырасьце.

Чым-жа тады вытлумачыць такую расейска-бальшавіцкую палітыку? Чаму беларускую моладзь адрываюць ад роднага краю й расьцярушваюць па «бяскрайніх прасторах» Казахстану й Сібіру, калі яна магла-б з большай карысьцяй працаваць у сябе на бацькаўшчыне?

Прыгаданыя намі факты даводзяць, што не эканамічныя меркаваньні адыгрываюць у гэтым галоўную ролю. Вытлумачыць гэта можна ў першую чаргу бальшавіцкай нацыянальнай палітыкай, скіраванай на далейшае паслабленьне народнага патэнцыялу беларускай нацыі. У вахвяру гэтай народазабойчай палітыцы партыя не паўстрымоўваецца прынесьці й гаспадарскія інтарэсы краіны.

**М. Кручкоўскі**

# Злавесная здань мінулага

Апошнім часам прэса ўсяго сьвету зьмяшчае шторазь болыш паведамленьняў аб антысэміцкіх выступленьнях. Газэты вольнага сьвету пісалі аб гэтым із зразумелым неспакоем, прэса-ж камуністых — з блага маскаваным задаваленьнем. Вельмі характэрнае зьявішча, што гэтыя акты антысэмітызму — хаця перш выявіліся ў Заходняй Нямеччыне — амаль адначасна пачалі множыцца ўва ўсім сьвеце: ад Скандынавіі да Аўстраліі, ад Эльбы да Японіі. Таму міжвольна паўстае пытаньне, ці гэтая злавесная акцыя ня была інсьпіраваная й кіраваная аднэй рукой? Бо як ня дзіўна! — навет у сталіцы жыдоўскай дзяржавы Тэль Авіве на мурох зьявіліся свастыкі...

Нічога дзіўнага, што гэтае нечаканае зьявішча выклікала зразумелую ўстрывожанасьць. Страшныя чатыры закрыўленыя кіпцюры свастыкі разьдзёрлі быццам-бы залечаныя раны, абудзілі жахлівыя ўспаміны страшэннага мінулага, аб чым кажны імкнуўся забыцца, а што толькі часам і што раз радзей — трывожыла людзей у кашмарных снох.

Аднак, ня будзем паддавацца гістэрыі, эгзальтацыі й антаганізмам, успамінам, але гляньма спакойна на гэтыя падзеі.

Няма сумлеву, што ў вабедзьвюх частках Нямеччыны захаваліся нацыстоўскія элемэнты. Ведаем, што, хаця вайна скончылася 15 год таму, у Нямецкай Фэдэральнай Рэспубліцы да гэтага часу выкрываюць, судзяць і караюць нацыстоўскіх злачынцаў. Усё-ж ня кажны прыхільнік нацызму быў ваенным злачынцам, затое напэўна быў антысэмітам. Таму ў дачыненьні да Нямеччынаў сяньняшняя жалюгодная акцыя можа быць больш зразумелай, чымся ў іншых краінах, у якіх да гэтага часу не заўважалася антысэмітызму.

Паўтараем, гэтая акцыя вельмі-ж сумная й жалюгодная ды можа вольнаму сьвету спрычыніць вялікія шкоды. Усё-ж вялікай пацехай зьяўляецца рэакцыя нямецкага фэдэральнага ўраду, арганізацыяў і грамадзкасьці, якія ня маюць намеру талераваць хуліганскіх прыхватак фашызуючых элемэнтаў. Заходнянямецкія ўлады пачалі хуткую й энэргічную контракцыю. Нямецкія суды праз 24 гадзіны пасьля выкрыцьця сурова засуджаюць ініцыятараў ці выканаўцаў антысэміцкіх актаў. У шмат якіх гарадох Заходняй Нямеччыны адбываюцца антыфашыстаўскія дэманстрацыі. Нямецкае студэнцтва дамагаецца выключэньня з унівэрсытэтаў скрайна правых элемэнтаў. Вельмі папулярны обэрбургомістар заходняга Бэрліну Вільлі Брандт публічна заявіў: «Мы будзем і далей дзеіць хутка, бо мы ня маем намеру дазволіць каму-небудзь затручваць паветра, якім мы дыхаем. Насельніцтва свабоднай часткі Нямеччыны ведае, як змагацца із спадчынай нацыстоўскага мінулага...»

Брандт заклікаў грамадзкую думку сьвету ня блытаць вялізарнай бальшыні нямецкага народу, які канчальна выракся нацызму, з хуліганствам жменькі палітычных банкротаў.

Можна спадзявацца, што пры энэргічнай інтэрвэнцыі фэдэральнага ўраду й грамадзтва гэтая жалюгодная акцыя будзе спыненая й ня спрычыніць вялікіх шкодаў.

Большай загадкай зьяўляюцца свастыкі на сьценах іншых гарадоў усяго сьвету, бо цяжка паверыць, каб гітлероўцы мелі такія ўплывы й магчымасьці ў гарадох ад Стакгольму да Сыднэю, ад Вашынгтону да Нью-Дэлі.

Звальваць-жа віну толькі на грамадзкіх хуліганаў, як гэта сьхільныя рабіць некаторыя публіцыстыя — на нашую думку, гэта спрошчваць справу, якая ня выглядае такой простай. Памеры й абсяг акцыі паказваюць на тое, што яна мусіць быць інсьпіраваная й кіраваная з аднаго цэнтру.

**пс**

# Праблема збожжа на пленуме ЦК КПСС

Скліканы на 22 сьнежаня мінулага году пленум ЦК КПСС у сваёй пастанове «Аб далейшым разьвіцьці сельскае гаспадаркі» з задаваленьнем прызнаў, што пасьля XXI зьезду ў сельскай гаспадарцы былі дасягнуты буйныя ўдачы. Пленум дадатна ацаніў і адобрыў усе мерапрыемствы, якія былі распрацаваныя й ажыцьцяўляліся партыйнымі, савецкімі й сельскагаспадарскімі органамі РСФСР, Украіны, Казахстану, Беларусі, Узбэкістану, Таджыкістану й Азэрбайджану для паднясеньня сельскае гаспадаркі ды выкананьня плянавых заданьняў і забясьпечаньняў на першы год сямігодкі.

У пастанове пленуму было адзначана, што калгасы й саўгасы ў 1959 годзе перавыканалі плян севу яравых культураў. Уся пасеўная плошча складала 196 мільёнаў гэктараў, амаль на 40 мільёнаў гэктараў больш, чымся ў 1953 годзе, з чаго кукурузай было засеяна 22 мільёны гэктараў.

Пленум таксама прызнаў, што ў 1959 годзе дзяржава закупіла «хлеба дастаткова». М. Хрушчоў у сваім дакладзе на пленуме канкрэтна абвесьціў, што «хлеба ў гэтым годзе нарыхтавана 2 мільярды 845 мільёнаў пудоў», і што «дасягнутыя вынікі трэба прызнаць добрымі».

Так выглядае афіцыйная ацэна дасягненьняў у сельскай гаспадарцы ў 1959 годзе ў вытворчасьці збожжа.

А як-жа выглядае палажэньне ў запраўднасьці?

Кіраўнікі партыі і ўраду ды й сам Хрушчоў вялікую надзею ўскладалі на цалінныя й залежныя землі. Аднак гэтыя надзеі не апраўдаліся. Паводле афіцыйных дадзеных, калгасы й саўгасы Казахстану з «добрага ўраджаю» здалі толькі 700 мільёнаў пудоў, на 250 мільёнаў менш, чымся ў 1958 годзе («Праўда», 22. 12. 1959). Буйны прадуцэнт збожжа ў Сібіры — Алтайскі край — ня выканаў узятых на сябе забавязаньняў і навет ня выканаў вызначаных плянавых заданьняў здачы збожжа. Наагул у Алтайскім краю кажны год зьніжаюцца ўраджаі збожжа. Навет Украінская рэспубліка, якая паводле цьверджаньняў пленуму ЦК правяла «значную працу ў разьвіцьці збожжавае гаспадаркі й забясьпечаньні краіны хлебам», у 1959 годзе здала дзяржаве на 100 мільёнаў пудоў збожжа менш, чымся ў 1958 годзе.

«Добры« ўраджай у Казахстане ў 1959 годзе даў вельмі бедныя вынікі. Як запісана ў пастанове пленуму, працы над зборам збожжа зацягнуліся, былі дапушчаныя буйныя страты яго й на вялікіх плошчах збожжа ня было сабранае й пайшло пад сьнег.

Няма сумлеваў, што Хрушчову яшчэ да пленуму добра быў вядомы катастрафічны стан уборкі ўраджаю на землях Казахстану. Тым ня менш, ён перад адкрыцьцём пленуму ЦК КПСС і Савет міністраў СССР «горача» віталі ЦК КП Казахстану, Савет міністраў рэспублікі, калгасьнікаў і работнікаў сельскае гаспадаркі ды ўсіх працоўных з дасягнутымі ўдачамі ў сельскай гаспадарцы. Ёсьць усе асновы дапушчаць, што гэта мела за мэту захаваць за Казахстанам другое месца пасьля РСФСР у вытворчасьці збожжа, а гэтым самым яшчэ раз падчыркнуць мэтазгоднасьць масавага асваеньня цалінных земляў. З гэтае прычыны Хрушчоў увесь час цьвердзіў, што ў Казахстане «вырашчаны добры ўраджай», і толькі ў выніку дрэннае арганізацыі працы гэты ўраджай поўнасьцяй ня быў сабраны. Для захаваньня аўтарытэту Хрушчова **віну за** няўдачы на цаліне Казахстану **павінен** быў узяць на сябе аднадумнік Хрушчова — сакратар ЦК КП Казахскай ССР Н. Бяляеў.

Сьнежанскі пленум ЦК КПСС пасьвяціў шмат увагі пашырэньню пасеваў кукурузы. Старшыня Савету міністраў РСФСР Д. Палянскі паведаміў, што пасевы кукурузы ў рэспубліцы будуць займаць 25% усіх пасеваў збожжа... Н. Падгорны давёў да ведама пленуму, што у бліжэйшыя гады пасевы кукурузы будуць складаць 50% у пасевах збожжавых культураў, а ў валавым зборы збожжа — больш за 60%. Для пашырэньня пасеваў кукурузы на Украіне будуць скарочаныя плошчы пад азімыя культуры. У сваім дакладзе Хрушчоў запрапанаваў падумаць аб скарачэньні пасеваў бульбы ў Беларусі й замене яе пасевамі кукурузы. Прадугледжваецца пасевы кукурузы давесьці да 500 тысяч гэктараў, хаця кукуруза ў Беларусі на збожжа не дасьпявае.

Наагул пленум пастанавіў неабмежавана пашырыць пасевы кукурузы за кошт асваеньня новых земляў і перагляду структуры пасеваў, скарачаючы пасевы малаўраджайных культураў, якімі зьяўляецца ў першую чаргу авёс і ячмень. Магчыма што пасьля выздараўленьня ад «кукурузнае гарачкі», якой ахоплены Савецкі Саюз, скарочаныя пасевы пшаніцы на Украіне й бульбы ў Беларусі будуць зноў збольшаныя.

Дапушчальна, што ў 1959 годзе дзяржава нарыхтавала хлеба дастаткова. Аднак нарыхтоўкі яшчэ нічога ня кажуць аб дастатковым забясьпечаньні калгасных сем'яў і работнікаў саўгасаў хлебам, асабліва ў тых мясцох, дзе ў мінулым годзе былі засухі (Паволжа, паўдзённа-заходняя частка РСФСР, Паўночны Каўказ, шырокая паласа Украіны і некаторыя раёны сярэдняе паласы). Відаць, з гэтае прычыны й ня былі апублікаваныя канкрэтныя дадзеныя аб **валавым** зборы збожжа ў 1959 годзе, бо інакш адразу відаць было-б, якая доля гэтага збожжа засталася калгасьнікам і саўгасным работнікам.

Засуха, буйныя недахопы ў сельскагаспадарскай тэхніцы, плыўкасьць працоўнае сілы на цаліне, значныя затраты на ўсіх этапах уборкі й захоўваньня збожжа зьнізілі агульны збор збожжа. З гэтых прычынаў агульны валавы збор збожжа ў 1959 годзе ня перавышае збораў таксама засушлівых 1955 і 1957 гадоў ды складае прыблізна 6—6,3 мільярда пудоў.

Такім чынам плянавыя заданьні, вызначаныя кантрольнымі лічбамі для вытворчасьці збожжа на першы год сямігодкі, ня былі выкананыя.

**В. Б.**

# На маргінэсе 21 зьезду камсамолу БССР

17-18 сьнежня мінулага году ў Менску адбыўся 21-ы зьезд камсамолу БССР. Ён быў скліканы напарэдадні сьнежаньскага Пленуму ЦК КПСС (адкрыўся ў Маскве 22 сьнежня) і ў сваю чаргу быў прысьвечаны падсумаваньню высілкаў камсамолу Беларусі ў выкананьні заданьняў першага году ўсеагульнай савецкай сямігодкі ды вызначэньню вытычных працоўнага пляну на 1960 год. Адным словам ён быў прысьвечаны, як зазначалася ў прывітаньні ЦК КПБ, справе «датэрміновага выкананьня сямігадовага пляну».

Як ведама, энэргію моладзі ўсякім ашуканствам партыя ня супраць выкарыстаць у самы максімальны спосаб, навет да самага ейнага зьнясіленьня. Тым больш, што ў БССР, як зазначалася ў рэзалюцыі зьезду й у паасобных выступленьнях удзельнікаў, «узровень кіраўніцтва многіх камсамольскіх арганізацыяў сацыялістычным спаборніцтвам камсамольцаў і моладзі адстае ад новых заданьняў. ЦК, абкомы, гаркомы, райкомы камсамолу яшчэ слаба мабілізуюць маладых работнікаў і спэцыялістых на датэрміновае выкананьне вытворчых плянаў, распрацоўку і ўкараненьне новай тэхнікі» й г. д.

На час скліканьня зьезду ў камсамоле БССР налічвалася 600 тысячаў камсамольцаў. Зь іх 182 888 работнікаў, 161 130 калгасьнікаў, рэшта — студэнты, вучні сярэдніх школаў, інжынеры, тэхнікі й кіраўнічая бюракратыя ці агітатары. На работніцкую й калгасную камсамольскую моладзь узваленая ўся чорная работа ў выкананьні заданьняў савецкае сямігодкі. Яна выконвае таксама ролю падганятых як ў васяродзьдзі чорнарабочае некамсамольскае моладзі, так і наагул усяго грамадзтва. У 1959 годзе на калгасных палёх працавала 11 805 маладзёжных зьвеньняў і 1 077 механізаваных агрэгатаў над вырошчаньнем кукурузы на 120 тысячах гэктараў. На гэтым участку сельскай гаспадаркі працавала больш за 150 тысяч камсамольцаў і моладзі, піянэраў і школьнікаў. На 1960 год заплянавана сіламі моладзі й камсамольцаў вырасьціць ў рэспубліцы кукурузу на 300 тысячах гектараў. Так што й лік «маладых кукурузаводаў» павінен таксама падвоіцца — да якіх 300 тысячаў. Камсамольцы й моладзь вялікую ролю іграюць таксама ў жывёлагадоўлі. У 1959 годзе на працу ў калгасныя фэрмы было накіравана каля 50 тысяч камсамольцаў і моладзі. Хоць плян і ня быў выкананы, але сіламі камсамольцаў і моладзі было адкормлена 427 тысячаў сьвіней, выгадавана 3 мільёны галоў птушкі й закантрактавана ў калгасьнікаў 366,5 тыс. цялят. У 1960 годзе плянуецца лік «маладых жывёлаводаў» павялічыць да 65-70 тысячаў, адкарміць 800 тысячаў сьвіней, закантрактаваць 500 тысячаў цялят, выгадаваць 6 мільёнаў галоў птушкі й 2,5-3 мільёны трусоў.

Хоць на сельскую гаспадарку ў БССР зьвернутая асаблівая ўвага, камсамольцы Беларусі таксама павінны браць «шэфства» над будаўніцтвам буйнейшых заводаў і камбінатаў, выдзяляць свае кадры для працы на цаліне ці на новабудоўлях Сібіру. Аднак найбольш увагі зьвяртаецца на нормы выпрацоўкі камсамольцаў і моладзі — на так званае выхаваньне зь іх дастойных камунараў. Калі верыць пададзенай статыстыцы на зьезьдзе, 5 097 маладзёжных брыгадаў, цэхаў, участкаў, фэрмаў і зьвеньняў у рэспубліцы «змагаецца» за званьне калектываў камуністычнай працы, звыш 10 000 чалавек змагаецца пад сьцягам ударнікаў камуністычнай працы, і каля 500 чалавек — пераняло «пачын Гаганавай», г. зн. пакінулі перадавыя брыгады й мейсцы й перайшлі ў адстаючыя з тэй мэтай, каб іх падцягнуць. Зь іх 223 ужо ўдастоіліся званьня брыгад камуністычнай працы й 560 — званьня ўдарнікаў. Моладзь удзельнічае таксама ў так званых дабраахвотных народных дружынах для аховы грамадзкага парадку, якіх у рэспубліцы налічваецца 5 014, ахопліваючы 120 тысяч дружыньнікаў. Апрача гэтага ў рэспубліцы створана 1 512 вучнёўскіх вытворчых брыгадаў з удзелам у іх 98 тысячаў вучняў 5-10 клясаў. Імі было апрацавана 25 150 гэктараў збажыны, выгадавана 301 тысяча трусоў, 736 тысячаў галоў птушкі, пасаджана больш 2 мільёнаў дрэваў і выпрацавана каля 6 мільёнаў працадзён. Наагул, як ведама, цяпер у Савецкім Саюзе адбываецца пераход на 8-гадовае навучаньне. Вучні старэйшых клясаў і гэтае школы мусяць таксама браць удзел у вытворчасьці — праходзіць практыку, каб пасьля заканчэньня школы зразу ўліцца ў калгасы ці на заводы ўжо з атрыманым адпаведным фахам. 9-10 клясы рэарганізуюцца ў 9-11 клясы вячэрніх школ, у якіх на жаданьне можна атрымоўваць сярэднюю асьвету, але ўжо без адрыву ад вытворчасьці. Студэнты таксама не пакінутыя ў супакоі. Да гэтага часу іх выганялі летам на ўборку збажыны цаліны Казахстану ці Алтаю або збажыны мясцовых калгасаў. Цяпер студэнты першых курсаў тэхнічных ВНУ ў абавязковым парадку павінны праходзіць вытворчае навучаньне на прадпрыемствах, працуючы на штатных рабочых месцах. Студэнты пэдагагічных ці гуманітарных інстытутаў у сваю чаргу арганізуюць працоўныя вылазкі на тыя ці іншыя прадпрыемствы ці ў калгасы. Гэтак, прыкладам, летам мінулага году студэнты Беларускага палітэхнічнага інстытуту арганізавалі лягер працы й адпачынку на будаўніцтве Салігорскага калійнага камбінату й у калгасе «Камунар» Старобінскага раёну, а студэнты Віцебскага пэдінстытуту — на будаўніцтве Полацкага нафтаперапрацоўчага заводу. Апрача гэтага на школьнікаў і студэнтаў ускладзена заданьне пабудоваў інтэрнатаў, клюбаў, бібліятэк і г. д. і галоўна самаабслугоўваньне ў інтэрнатах, лябараторыях, бібліятэках і культурных установах. Мэта — эканомія дзяржаўных сродкаў. Якая гэта будзе эканомія, можна бачыць хоць-бы на прыкладзе расходаў на ўтрыманьне Менскага Палацу культуры. Цяпер яго абслугоўваюць 105 штатных работнікаў. Штогадовы бюджэт Палацу — 3,5 мільёнаў рублёў, плюс мільён рублёў датацыі на «дробныя расходы». Калі перайсьці на самаабслугоўваньне, дзяржава сэканоміць такім чынам 4.5 мільёнаў рублёў, а камсамольцы й моладзь дагляд і рамонт Палацу будуць рабіць дармова. А колькі-ж такіх другіх палацаў, клюбаў, інтэрнатаў, бібліятэк, школаў, лябараторыяў у рэспубліцы? Да гэтага даходзіць дармовае будаваньне школаў, інтэрнатаў, клюбаў. Мільярды рублёў эканоміі для дзяржавы. Што-ж толькі ня робіцца для моладзі!

Камсамол — «будучыня савецкага камуністычнага грамадзтва». Бяручы гэта на ўвагу, партыя на сяньня намагаецца ўцягнуць усю моладзь у камсамол, каб пасьля, іграючы на камуністычных пачуцьцях і падпарадкоўваючы яго партыйнай дысцыпліне, вымагаць зь яго апошняе. 600 тысячаў на 8 мільёнаў насельніцтва — гэта вялікая лічба. Зьезд даручыў камсамольскім арганізацыям не пакінуць ніводнага юнака паза камсамолам. Ён даручыў ім таксама прывіць гэтае моладзі «камуністычную мараль», якая асноўваецца галоўным чынам на выхаваньні добрага й аддадзенага працаўніка-нявольніка. З гэтае прычыны па ўсёй рэспубліцы сярод моладзі праводзіцца ўзмоцнены паход за «марксістоўска-ленінскую загартоўку». Асабліва зьвернута ўвага на выкараненьне рэлігійных пачуцьцяў, хоць гэтая акцыя й ня мае паважных усьпехаў. Камсамолу даручана таксама рабіць выбар сярод моладзі кандыдатаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Гэта азначае, што туды ня трапіць ніводзін некамсамолец, хоть цяжкая цяпер туды дарога й для звычайнага камсамольца. Ня так лёгка здабыць будзе сярэднюю асьвету ў вячэрніх школах, працуючы й пераносячыся штомесячна з аднаго прадпрыемства на другое ці з аднае рэспублікі ў другую, тым больш, што да вячэрніх школаў і сама партыя становіцца крытычна.

Знаючы савецкую бюракратычную й падхалімскую сыстэму, трэба прадбачыць, што ў вышэйшыя навучальныя ўстановы будуць трапляць толькі сынкі й донькі большых партыйных рыбаў і іхных падхалімаў. Не апошнюю ролю тут іграе таксама агульная зморанасьць падсавецкае моладзі, апатыя да жыцьця, што спрычыніцца да адказу многімі працягваць далейшае навучаньне. Пра гэта ўжо сяньня гаворыць савецкая прэса, адзначаючы, што бальшыня навучэнцаў вячэрніх сярэдніх школаў зразу-ж адсейваецца пасьля месячнага наведваньня.

Які можна зрабіць высnaў? Бяручы на ўвагу хоць-бы характар працы 21-га зьезду камсамолу БССР, партыя клапоціцца толькі пра выкананьне вытычных сямігадовага пляну й нічуць пра стан і дабрабыт моладзі. Моладзь знойдзе свой дабрабыт у будучым камунізьме, які малюецца ня вельмі што паэтычна — праца й непасільная праца без атрыманьня належнае ўзнагароды. Пра гэта гаворыць хоць-бы гэты пераход да «самаабслугоўваньня» ды абяцанка Хрушчова, зробленая на сьнежаньскім Пленуме ЦК КПСС, перайсьці да «ўраўнілаўкі» аплаты ў калгасах і саўгасах, бо калгасьнікі некаторых калгасаў атрымоўваюць це345

разьмерна высокую аплату за свае працадні! Калгасы зашмат спажываюць «усенароднага» дабра й дзяржаўнага бюджэту! Адным словам яшчэ не дастатковая галеча калгасьнікаў. Трэба іх пусьціць з торбай, як і парацаўнікоў саўгасаў. Што-ж, гэта магчыма дапаможа дагнаць Амэрыку, тым больш дапаможа выдзеліць больш сродкаў на падкормліваньне «міжнароднага камунізму». Савецкае грамадзтва — глупства! Зможа, як і дасюль жыць лёзунгамі й імкненьнем да камунізму, падцягнуўшы тужэй папружкі. Што-ж, нарэшце, думае аб сваім мізэрным лёсе савецкая моладзь і гэты камсамол-нявольнік!?

**П. Залужны**

# Камэрун — незалежная дзяржава

1-га студзеня 1960-га году яшчэ адна дзяржава ўвайшла ў сям'ю сувэрэнных нацыяў. Хутка пасьля абвешчаньня ейнай незалежнасьці можна спадзявацца, што новая дзяржава ўвойдзе і ў Арганізацыю Задзіночаных Нацыяў. Гэтай новай сувэрэннай дзяржавай зьяўляецца Камэрун, які знаходзіцца на заходнім узбярэжжы Афрыкі. Да першай сусьветнай вайны Камэрун быў нямецкай калёніяй. Пасьля гэтай вайны тэрыторыя Камэруну, якая налічвае 432 тысячы квадратных кілямэтраў, перайшла пад кіраўніцтва Францыі.

У лютым мінулага году францускі ўрад дэ Голя зьвярнуўся да АЗН з заявай, што ён мае намер прызнаць Камэруну поўную незалежнасьць. Адначасна францускі ўрад прасіў АЗН, каб яна аднагалосна выказала згоду на гэтую пастанову. 13-га сакавіка 1959-га году Генэральная Асамблея АЗН выказала згоду з францускай пастановай 50-ю галасамі пры 23-х, якія паўстрымаліся. Супраць не галасаваў ніхто.

Меншая паўночная частка Камэруну, якая была перададзеная пад апеку Вялікабрытаніі, таксама павінна атрымаць незалежнасьць напрацягу 60-га году. Аднак, у гэтай частцы, якая завецца Брытанскім Камэрунам у адрозьненьне ад Францускага Камэруну, праблема атрыманьня незалежнасьці больш складаная, чымся ў францускай частцы. Брытанскі Камэрун ў сваю чаргу падзелены на дзьве часткі, прычым насельніцтва аднэй зь іх схіляецца да саюзу з суседняй Нігерыяй, у той час, як насельніцтва другой часткі ўважае за лепшае ўвайсьці ў склад незалежнага, былога Францускага Камэруну. Гэтая праблема павінна быць вырашаная свабодным плебісцытам, які будзе праведзены пад кантролем Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.

Новая сувэрэнная дзяржава, якая зьявілася на сьвет адну хвіліну пасьля поўначы на 1-га студзеня 1960-га году, налічвае звыш трох мільёнаў чалавек. Першыя месяцы новага году пройдуць у фармаваньні ягоных сувэрэнных урадавых і адміністрацыйных органаў. Пасьля ў ліпені 1960-га году будуць праведзеныя першыя выбары ўжо ўва ўмовах поўнай сувэрэннасьці. На працягу гэтага пэрыяду Францыя будзе працягваць сваю дапамогу як эканамічную, так і тэхнічную. Аднак, дзеля таго, каб сымбалічна адзначыць новы сувэрэнны статут Камэруну ад 1-га студзеня 1960-га году Францыя й Камэрун абмяняліся сваімі прадстаўніцтвамі.

Прыпушчаюць, што Францыі будзе належаць гонар увядзеньня Камэруну ў Арганізацыю Задзіночаных Нацыяў, як у пачатку мінулага году ёй належаў гонар увядзеньня Гвінэі, якая сталася 82-ім сябрам Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.

Савецкая камуністычная прапаганда імкнецца ачарніць заслугу Францыі, запярэчваючы таму, што Францыя сама прывяла да поўнай нацыянальнай незалежнасьці адну з тэрыторыяў, якая знаходзіцца пад ейнай апекай. Адзін з тактычных спосабаў камуністычнай прапаганды палягае ў цьверджаньні, што, маўляў Францыя і ў будучыні будзе панаваць у Камэруне, і што незалежнасьць — гэта толькі фасад. Гэтая прапаганда ня можа аднак запярэчыць таму гістарычнаму факту, што былая залежная (каляніяльная) тэрыторыя сталася незалежнай, дзякуючы ініцыятыве свайго былога «каляніяльнага гаспадара» — Францыі, паколькі сам савецкі ўрад маўкліва **прызнае гэты** факт тым, што паслаў афіцыйную ўрадавую дэлегацыю на ўрачыстасьць абвешчаньня незалежнасьці.

Палітычнае значэньне абвешчаньня незалежнасьці Камэруну павялічваецца яшчэ й таму, што паводля ўсіх дадзеных, у гэтым годзе Афрыка будзе ў цэнтры міжнароднай увагі. У красавіку будзе абвешчаная незалежнасьць **Того.** Пасьля ў якасьці паўнапраўнага сябры ў сям'ю Задзіночаных Нацыяў увойдзе тэрыторыя **Сомалі,** якая знаходзіцца пад апекай Італіі.

А ў канцы году незалежнасьць атрымае **Фэдэрацыя Нігерыі.** Апрача гэтага, на працягу гэтага году некаторыя сябры маладой францускай Супольнасьці таксама зьменяць свой палітычны статус. З аўтаномных тэрыторыяў яны ператворацца ў незалежныя дзяржавы. Першай зь іх будзе **«Фэдэрацыя Малі»,** гэта значыць аб'яднаньне **Сэнэгалю** з францускім **Суданам.** Адносна гэтага аб'яднаньня ўжо адбываюцца перамовы. Такія самыя перамовы пачнуцца ў лютым і паміж **Мадагаскарам** і **Францыяй.**

Такім чынам, на нашых вачох, як грыбы пасьля дажджу, з былых калёніяў паўстаюць новыя незалежныя дзяржавы. Былыя заходнія каляніяльныя імпэрыі добра пабачылі ў якім кірунку йдзе нямінучая эвалюцыя, а пабачыўшы, зразумелі, што век каляніялізму ўжо сваё аджыў і будучыня сьвету — толькі ў мірным сужыцьці й супрацоўніцтве **роўных, свабодных і незалежных нацыяў.** Адна толькі імпэрыя яшчэ трымаецца ўсімі сіламі сваіх каляніяльных валаданьняў — гэта імпэрыя расейска-савецкая. Але тым горшы й няслаўны будзе ейны канец, калі яна ня пойдзе з духам часу ды надалей будзе трымаць у сваіх ланцугох паняволеныя ёю народы.

**Праф. Др. Я. Станкевіч**

2)

# Зь гісторыі русыфікацыі Беларусі

Прычыны гэтае зьявы зьясьняюцца вельмі проста: служба ў Заходнім краю вымагае ад Расійца большае працы, энэргіі й такту, чымся ў цэнтральных губэрнях. Самае жыцьцё ў паветавым месьце або ў бедным мястэчку, воддаль ад усяго роднага, сярод людзёў, чужых вераю й перакананьнямі, а вельмі часта проста варожых ёсьць мала пацяшаючым. Вонках службы жыцьцё расійскага ўрадніка («чиновника»), поўнае трывогі й няпрыемнасьцяў, абмежуецца вельмі вузкімі рамкамі радзімнага або таварыскага грудка» (137).

Адзіная магчымасьць прынадзіць да Беларусі на службу Расійца — было даць яму як мага большую пэнсію. «Грошы, — вось чым замест ранейшай ідэйнасьці і патрыятычнага служэньня інтарэсам імпэрыі — пачаў заахвочаваць Мураўёў а Карнілаў расійскае вучыцельства а ўрадніцтва. «Вестник Западной России» із захапленьнем падхапіў гэтае мерапрыемства... Праграма «обрусения Белоруссии» з гэтага мамэнту ясна вызначалася не як культурнае або нацыянальнае заданьне, а як вузка аканамічны, проста сказаць скурны інтарэс тых «дзеячоў», што пачалі з 1864 г. ехаць да Беларусі на цёплыя месцы, на падвойныя пэнсіі, надгароды, ордэны і г. д.» (137).

Прыносілі яны із сабою дэмаралізацыю. «Наплыўшы з глыбіні Расіі адно каб напхаць сабе кішаню і ня маючы абсалютна нічога зьдзержуючага, уся гэтая лотва («арава») ўраднікаў, палічнікаў, пасярэднікаў, вучыцялеў, а то й проста ахвіцэраў тых няшчысьлёных жандарскіх а казацкіх пастояў, што хмарай пакрывалі пасьля паўстаньня «заміраную» Беларусь, — унесла ў край надзвычайны маральны распад, збэсьціла а спростытуявала грамадзкае жыцьцё ў самых асновах. «Адзінае шчасьце краю», піша аб гэтых часох адзін із сучасьнікаў, была надзвычайная прагавітасьць гэтых псэўда-патрыётаў на грошы. Толькі ў хабару можна было знайсьці сабе ў тым часе паратунак ад гэтае ўлады; трэба было адкупляцца на ўсе бакі, каб спабыцца трасеньняў, скандалаў, што пакідалі просьле сябе сьляды поўнага зьнішчэньня» (138).

«Заліты крывёй кагадзе задушанага паўстаньня, разбураны з боку гаспадарскага, змучаны й зьбіты з нармальнага жыцьця, край запраўды стагнаў ад гэтае процьмы кар'еры стых а прайдзісьветаў» (138).

Гэтых, адылі, прайдзісьветаў бараніў Гаворскі. Дзеля таго ў канцы нат ягоныя прыяцелі і найзаўзятшыя прыхільнікі абрусеньня Беларусі пачалі выступаць супроці яго. Гэтак М. дэ-Пуле, рэдактар «Виленскага Вестника», просьле А. Кіркора, пісаў, што ў Вільні «зьявілася партыя канцавых русыфікатараў... Гэтая партыя дамагалася заўсёды жорсткіх мераў і ўпікала ў слабасьці й патураньню гэткіх асобаў, як сам М. Мураўёў. З боку гэтых русыфікатараў найбольш даставалася мясцовым рускім людзём... Ад іх, ад мясцовых людзёў, замест спакою а міру, вымагалі варожасьці а злосьці, — і калі не знаходзілі ні таго, ні другога, дык абзывалі іх мянушкамі палякуючых і апалячаных» (№ 2, б. 135).

Таксама Яз. Сямашка жаліўся ў лістох сваіх да сыноду, што некаторыя з прыбылых да «Заходняга Краю» ўраднікаў із трэбаваньнем ставяцца да мясцовага праваслаўнага духавенства, упікаюць яму няведаньне праваслаўных статутаў і нат мяшаюцца ў царкоўныя справы. Ён піша, што «нейкі гвардыі паручнік Шчэрбаў зачыняў самадумам безь зьясьненьня прыходы і хадзіў па аўтару ў кажуху з палкаю; штабс-капітан Крамераў і лейб-маёр Савіцкі самі служылі службу Божую, адзеўшыся ў рызы і носячы аўтарнае судзьдзё... Ведама, — піша Сямашка, — трэба зьмяніць шмат чаго ў тутэйшнім краю, каб зрабіць яго аднолькавым із астачаю гаспадарства. Але трэба памятаць, што прызвычкі а звычаі, якія ўкараніліся ў масе народнай за вякі, патрабуюць гэтак сама стагодняга разумнага дзеяньня. Прымеж таго гэтыя рознасьці, дзякуючы надоечы прыбылым сюды расійскім дзеячом, былі апошнім часам прычынай смутных зьяваў у нашым краю, што сталіся галосьнымі і зрабілі шмат на каго вельмі нявыгоднае даймо» (б. 135—36, № 2).

Гаворскі першы падняў пытаньне праз стварэньне расійскай земляной собскасьці ў Беларусі (137). «Вестник Западной России» пісаў: «Дзеля таго што ў вапошніх часох зьявіліся ў нашай прэсе чуткі, быццам сума штагодніх памогаў, пэнсіяў на старасьць, каторыя адзержуюць адстаўныя ўраднікі («чиновники») ўсіх службаў, зрабілася занадта цяжкой для гаспадарствавых фінансаў, дык напэўна знайшлося-б шмат такіх Расійцаў, што замест пэнсіі ахвотна замацавалі-б за сабой на вечнасьць канфіскаваныя або сэквэстраваныя двары ў Заходнім Краю. Прадставім сабе, — лятуціць «Вестник», — што ўсе перaказы пераможаныя — і вось з усіх канцоў Расіі едуць да Заходняга Краю ўраднікі-пэнсіянеры із сваймі сем'ямі, уладжуюцца тут на жыцьцё на вызначаных ім дзялянках, заводзяць гаспадарку і памалу ствараюць сваю собскую расійскую інтэлігенцыю... Гэткім парадкам расійская зямляная собскасьць у гэтым краю замацавалася-б ня толькі de scripto, але й de facto і край нажыў-бы рускую фізыяномію... Цяпер шмат якія Расійцы ня хочуць заставацца на сталае жыцьцё ў Заходнім Краю, між іншага, таму, што няма тут расійскага грамадзтва, няма дзе супачыць душою. Гэтая няпрыемнасьць сама сабой зьнікла-б, калі-б край засяліўся расійскімі собсьнікамі зямлі, і, як бы на знак чароўнае рукі, борзда адбылося-б жаданае абрусеньне»... Зусім інакш адчуваў-бы ён (ураднік-Расіец), калі-б у яго быў невялічкі, гэтак прыблізна дзесяцінаў у 500, дварочак» (150).

Аўтар пытаецца, які клясавы інтарэс быў «западно-русской» школы, «хто у тых часох у складзе «западно-русской' школы»? І тут-жа адказуе: «яе складалі драбныя ўраднікі, вучыцелі селавых а месцкіх школаў ды гімназіяў, дробная мясцовая адміністрацыя, пачынаючы ад валаснога пісара і канчаючы пасярэднікам а спраўнікам, праваслаўнае духавенства, прымесцкія мяшчане, наагул тая сярэдняя краёвая праваслаўная беларуская інтэлігенцыя, якая лікам была вельмі невялічкая... Да яе, ведама, належыла й вялікаруская «інтэлігенцыя», каторая наплыла з цэнтральных губэрняў і каторая верхаводзіла справай русыфікацыі, але каторая ідэялягічнага афармленьня для «западно-русской» школы не давала і даць не магла. Эканамічна ўся гэта мяшчанска-буржуазная кляса была з рэдкімі выняткамі незаможная; ладнае земляное собскасьці і капіталаў, што гулялі-б якую-небудзь ролю ў гаспадарскім жыцьцю краю, яна ня мела. Яшчэ й да паў-

